P rzesyłka opłacona ryczałtem

№ 26 Серада, 20-га кастрычніка 1926 г. м Вільня Год I

# Беларускае Слова

Выходзіць раз у тыдзень Цана нумару 20 грош.

**Нацыянальнае адраджэньне.—Тэрыторыяльная і культурна-нацыянальная аутаномія.—Зямля сялянам на падставе уласнасьці.—Шырокі дэмократызм.—Барацьба з комунізмам.—Нацыянальная царква.—Краевая згода.—Далучэньне Усходняй Беларусі да Заходняй.**

Падпісная цана на 1 месяц 1 зл.
„ „ 3 „ 2 зл. 50 гр.
Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno ul. Zakretowa 21.
Рэдакцыя адчынена ад 12—2 гадз. штодня апрача сьвятаў.

Цана абвестак: перад тэкстам—20 гр
„ сярод тэксту —25 гр
„ на апош. стар. —20 гр
за радок нонпарэля.

# МАСАВЫ ПСЫХОЗ.

Даходзяць весткі, што „Грамада" ўсё расьце і расьце. Паўстаюць усё новыя і новыя „гурткі". Праўда, перасьцярагаючы голас адозвы Рады ўнёс пэўнае замяшаньне ў працэс арганізаваньня гурткоў і паслы Грамады павінны былі даваць тлумачэньня на сваіх зьездах у Сьвержане і Паставах аб адозве, зноў ашукваючы сялян, што, *ім нішто ня пагражае.* Але адозва не магла ўстрымаць росту Грамады, бо супроціў масы агітацыйнай бібулы, разсыланай Грамадою, адозва была кропля ў моры, а потым масы ахваціў нейкі псыхоз, які забівае нават прыроднае пачуцьцё асьцярожнасьці, якое гэтак уласьціва беларускаму селяніну. Ен як зачараваны лезе ў Грамаду, не бачучы той небясьпекі, якая яму пагражае, не чуючы, ўжо сваім інстынктам, што арганізацыя гэтая яму варожая па сваей сутнасьці, як гарадзкая — пралетарская. Лезе ў партыю органічна не любячы ўселякіх партыяў, як гэта мы бачым у Сав. Расеі, гдзе 99% сялянства безпартыйнае. „Сял. Ніва" піша слушна, што сялянства прэ ў Грамаду на гора, але не тлумачыць глыбіны прычынаў гэтага надзвычайнага пацягу да Грамады. Мы ж лічым, што апрача ўсіх прычынаў аб якіх мы ў папярэдніх нумарах гаварылі, як зацяжка з рэформамі і інш., мы маем дачыненьне з безумоўным зьявішчам масавага псыхозу. З гэтым зьявішчам як з фактам няшчасьця беларускага сялянства — мы павінны змагацца ўсемі сродкамі. Польскае грамадзянства, здаецца нарэшце, зразумела тую небясьпеку, якой пагражае Дзяржаве „Грамада". Аб гэтым моцна крычаць у адзін голас крэсовыя газэты ўсіх напрамкаў. Праўда ніякіх рэальных сродкаў проціў Грамады, а перад усім неабходных рэформаў і зьмены адносінаў Ураду да беларусаў няма. Аднак жа пры тым адкрытым рэвалюцыйна — антыдзяржаўным кірунку, які прыняла Грамада, трэба чакаць ад Ураду разам і рэпрэсіўных мераў, якія могуць балезна ўдарыць усіх тых нешчасьлівых, у якіх не хапіла волі, каб супроцьстаць гэтаму масаваму псыхозу.

І вось, каб гэтых афяраў была як мага менш, усе беларускія групы, якія не падзяляюць ідэалёгіі Грамады і шчыра апякуюцца лёсам свайго сялянства, абавязаны выступіць на змаганьне з Грамадой. Ня можна сядзець спакойна і толькі канстатаваць, што Грамаду стварылі польская адміністрацыя, паліцыя і г. д., а значыць няхай Палякі і самі даюць рады з Грамадою. Трэба бачыць, што Грамада адначасна ня толькі ўдарае па Польскай Дзяржаве, але ўдарае і самаму беларускаму народу, нясе ў яго душу заразу бальшавізма, бунтарства, дэморалізацыі і ненавісьці. Грамада нарэшце ўдарае па ўсім іншым групам беларускім, бо гэта ёсьць асновай праграмы бальшавікоў — разьбіваць і зьніштажаць усе іншыя думкі і партыі, якія ня прымаюць комуністычнай дактрыны. Бел. Нац. Рада свой абавязак барацьбы з Грамадой выпаўняе па меры сваіх сілаў. Цяпер чарод за іншымі беларускімі групамі.

Гэткім чынам Грамада будзе ізалявана і супольным высілкам беларускіх дэмократычных групаў, можа удасца аслабіць той удар, які праз Грамаду рыкашэтам пападзе ў беларускае сялянства.

# ПАЛІТЫЧНЫ АГЛЯД.

У адказ на тайнае спатканьне Брыяна з Штрэзэманам ангельскі міністар заграничных справаў паехаў з Жэнэвы да Італіі, дзе меў тайную канфэрэнцыю з Мусаліні. Спатканьне адбылося ў Ліворні. Аб чым там была гутарка, невядома. Адно толькі не падляжыць ніякаму сумліву, што на гэтай канфэрэнцыі разважаліся ўсе актуальныя пытаньня, зьвязаныя з француска-нямецкім зблізэньнем, якое пайшло вельмі вялікімі крокамі ўперад, пасьля ўвахода Нямеччыны ў Лігу Народаў. Пасьля спатканьня Мусаліні з Чэмбэрленам італьянская дыплёматыя пачала праяўляць большую актыўнасьць. Пад уплывам Італіі Гішпанія ізноў высунула пытаньне аб Танжэры. Пры гэтым гішпанскі дыктатар пагразіў, што калі ня будзе даны Танжэр Гішпаніі, дык апошняя выйдзе з Танжэру, а гэта была-бы раўназначна з зьніштажэньнем трактату 1904 г., падпісанага Англіяй, Францыяй, Італіяй і Гішпаніяй, які рэгулюе Сяродземнаморскую праблему. Апрача таго Турцыя падняла трывогу з поваду таго, што быццам Італія і Грэцыя рыхтуюцца к нападзеньню на палуднёвую Анатолію. У сувязі з гэтым Турцыя мабілізавала і скацэнтравала каля 4 карпусоў войска ў пагражаемым пункце. Апрача таго ідзе вялікае змаганьне паміж італьянскім і францускім ўплывамі на Балканах і ў Сярэдняй Эўропе.

Але найбольшым палітычным здарэньнем апошніх дзён у Эўропе быў гэтак званы панэўропэйскі кангрэс, які адбыўся ў Вене ў канцы мінулага і пачатку бягучага месяца. Ініцыятарам гэтага кангрэсу, як роўна і тварцом ідэі пан эўропы зьяўляецца малады нямецкі вучоны граф—Калержы. Кудэнгоф. Тры гады таму назад у Кудэнгофа нарадзілася ідэя стварэньня з Эўропы агульнага хаўруса на кшталт Злучаных Штатаў Поўночнай Амэрыкі. Ідэя гэтая дзень за днём здабывае ўсё больш і больш прыхільнікаў і на венскім кангрэсе прымалі вучасьце прадстаўнікі 28 эўропэйскіх дзяржаваў, сярод якіх было шмат міністраў, паслоў законадаўчых палатаў, вучоных журналістаў і г. д. Кіраўнічую ролю на кангрэсе гулялі немцы, якія ў выпадку зьдзейсьненьня гэтай ідэі атрымалі бы найвялікшыя карысьці. Гэты кангрэс пасьля Лёкарна і ўваходу Нямеччыны ў Лігу Народаў зьяўляецца новым вялікім крокам на шляху к пацыфікацыі Эўропы.

Ня меншую ўвагу зьвярнулі на сябе і падзеі ў Усходняй Эўропе, дзе кіруючую ролю гуляе Радавая Расея. Хвартэль, выкінутая бальшавікамі з літвінамі ў Маскве, падняла на ногі ўсю дыплёмацыю заходніх суседзяў Радавай Расеі. Гутарка ідзе аб літоўска-расейскім гаранцыйным трактаце, падпісаным — Чычэрыным і літоўскім прэм'ерам Сьляжэвічам у Маскве, у канцы мінулага месяца. Чычэрын, як вядома, ужо даўно зрабіў прапазыкі па гэтаму пытаньню Польшчы, Літве, Латвіі, Эстоніі і Фінляндыі, але без усякіх вынікоў дзеля таго, што ніхто з вышэй памянёных дзяржаваў ня верыць у шчырасьць радавай дыплёмацыі. А між тым для бальшавікоў вельмі важна было, каб так ці інакш разьбіць адзіны антыбальшавіцкі фронт Заходніх дзяржаваў, у першую чаргу адзіны фронт Балтыйскіх рэспублікаў з Польшчай і Румыніяй на чале. І гэта мэта часткова дасягнута бальшавікамі дзякуючы трактату з літоўцамі, якіх ім пашчасьціла перацягнуць на свой бок. Каб толькі прымусіць літоўцаў падпісаць умову, бальшавікі пайшлі на вельмі вялікія ўступкі на карысьць першых як у эканамічных, гэтак сама і палітычных адносінах. Гэткім чынам радавая Расея на аснове падпісанай умовы абязалася прадаставіць літоўцам 100 тысяч дзесяцін лесу для экспляатацыі, а з палітычнага боку — прызнала Вільню і Клайпэду за літоўцамі. Але бальшавікі, як ведама, на аснове рыжскага трактату з Польшчай адмовіліся ад умяшаньня ў віленскую справу, лічачы яе выключна польска-літоўскай. А пазьней, у 1923 г. рада паслоў вялікіх дзяржаваў зацьвярдзіла усходнюю граніцу Польшчы і эткім чынам аканчальна зьняла з чаргі дня віленскае пытаньне. Знача, парушыўшы віленскую справу, Літва і Радавая Расея пасрэдна выклікаюць канфлікт з Лігай Народаў, першым абавязкам якой зьяўляецца ахрана істнуючых міжнародных трактатаў і рубяжоў. Мала гэтага, бальшавікі выклікалі проці сябе падазрэньне з боку Польшчы і іншых Балтыйскіх рэспублікаў, як роўна незадаваленьне і з боку свайго сябры Нямеччыны за тое, што ўмяшаліся ў Клайпэдскую справу. Літоўска радавы трактат зрабіў самае дрэннае ўражаньне на Захадзе Эўропы. Бальшавікі рахавалі, што гэтым зробяць сабе ляпей, дык вельмі абмыліліся, бо зрабілі як сабе, гэтак сама і літоўцам толькі гарэй, адпіхнуўшы ад сябе тых, хто меў да іх сымпатыі. І зусім дарэмна многія газэты раздмухалі гэты факт, які мае значна меншае значэньне, чым яму прыпісуюць. Перш на-перш унутраная палітычная і эканамічная сытуацыя у Радавай Расеі не пазваляе ей актыўна мяшацца ў чужыя справы.

Апазыцыя ў расейскай комуністычнай партыі ізноў падняла галаву, на гэты раз яшчэ мацней, як раней. Да апазыцыі перайшоў аканчальна і Троцкі, якога пазыцыя да гэтай пары была нявыразная. Да апазыцыі перайшоў яшчэ быўшы народны камісар земляробства Сьмірноў, начальнік

## Нарэшце...

„Беларуская Крыніца" ў № 3 ад 15 кастрычніка піша:

„Сьвяткуем 10-лецьце нашай газэты, бо выходзіць яна ужо ў сьвет у наступных дзесяцёх гадох: 1917—18—19—20—21—22—23—24—25 і 1926. Але гэтыя 10 гадоў ня поўныя. Дык гэта паслужыла прычынай грамадаўскаму пісаку ў № 24 „Народнай Справы" назваць наш юбілей „фальшывым", прыпісаць нам „сьвядома манлівую інфармацыю" і цэлы рад брукова — хуліганскіх лаянак і прытычак

У абароне свайго добрага імя мы мусілі-б адклікнуцца да грамадзянскага суду чэсьці. Аднак мы вольныя ад гэтага абавязку, бо за гэныя не этычныя і някультурныя на нас нападкі вінават вядомы Антон Луцкевіч, які за падобныя рэчы ужо асуджаны прад грамадзянскім судам, чэсьці, а так жа біты па твары.

Астаецца толькі шкадаваць што чалавек гэты ўвёў у грамадаўскую прэсу азіяцкія спосабы публіцыстыкі і стаўся бацькам газэтнага бандытызму. Усё здаровае беларускае грамадянства для агульнага дабра ў імя Божых і людзкіх Ідэалаў павінна змагацца з падобным маральны выраджэньнем."

Камэнтарыяў здаецца ням трэба

балтыцкага ваеннага флёту Зоф і інш. З прычыны разгарэўшайся новай барацьбы з апазыцыяй прыйшлося адлажыць агульны гадавы зьезд усерасейскай комуністычнай партыі з 15 на 25 гэтага месяца. А калі толькі ня ўдасца стлуміць апазыцыі, дык зусім магчыма, што гэты зьезд зусім не адбудзецца ў гэтым годзе. Паводле апошніх вестак з Масквы апазыцыя перайшла нават на зялезную дарогу і ў чырвоную армію. Апазыцыйным жа рухам карыстаюцца ўсе антыбальшавіцкія элемэнты для прыкрыцьця сваей работы. Гэтак па прызнаньню маскоўскай чразвычайкі ў чырвонай арміі каля 80 прац. афіцэрскага саставу настроена варожа проці радавай улады. Нават камандзіры-комуністы знаходзяцца пад поўным уплывам афіцэраў быўшай царскай арміі. Апрача таго па ўсей Расеі вельмі расьце антысэмітызм і хуліганства. Усё гэта разам узятае зрабіла тое, што нямецкія прадпрыемцы і купцы ліквідуюць усе свае гандлёва-прамысловыя справы ў Расеі і выязджаюць дамоў. Бальшавіцка-нямецкі Рапальскі і Бэрлінскі трактаты існуюць пакуль толькі на паперы, не даюць ніякай рэальнай карысьці.

Гэткая-ж самая няўдача спаткала бальшавікоў і на Д. Усходзе. Манджурскі дыктатар Чанг-Тсо-Лін вытурыў Карахана з Пэкіна, зачыніў бальшавіцкія школы ў Манджурыі і перадаў іх пад кіраўніцтва антыбальшавіцкіх расейцаў. А часовая перамога чырвонай Кантонскай арміі закончылася ўласным паражэньнем і адступленьнем пад націскам мацнейшай арміі гэн. Фана, губэрнатара 5 прыморскіх провінцыяў. Апрача таго вы слаў падмогу на поўдзень і Чанг-Тсо Лін з Манджурыі, якая дасягае больш як 180,000 чал. Гэн. Фан так пабіў кантонскіх бальшавікоў, што яны нават зрабілі прапазыку аб згодзе. Каб паправіць палажэньне на Кантонскім фронце, бальшавікі паслалі ў Кантон гэн. Фэнга з Мангольскага фронту; які нядаўна быў у Маскве. Гэн. Фэнг прыняў пост ваеннага міністра ў Кантонскім Урадзе і камандаваньне над арміяй проціў антыбальшавікоў. Але німа ведама, ці палепшыць гэта агульнае палажэньне на Д. Усходзе.

Чытайце і пашырайце роднае слова!

# Апошнія навіны.

## У Польшчы.

Новастворany кабінэт Бартэля ізноў атрымаў у Сойме вотум недаверра.

Тады прэзыдэнт даручыў місію ўтварэньня кабінэта марш. Пілсудскаму. Марш. Пілсудскі згодзіўся і стварыў новы кабінэт у гэткім складзе. Марш. Пілсудскі—прэмьер і вайсковы міністар, праф. Бартэль — асьветы, гэн. Славой—Складкоўскі—ўнутраных справаў, А. Мэйштовіч—справядлівасьці, Г. Чэховіч — фінансаў, К. Незабытоўскі—зямельных справаў, інж. Квяткоўскі—гандлю і прамысловасьці, інж. Рамоцкі — чыгункі, інж. Марачэўскі — публічных работаў, др. Юркевіч—працы, др. Станевіч — зямельных рэформаў.

Новыя міністры злажылі прысягу.

— 13 кастрычніка б. міністар ўнутраных справаў Млодзяноўскі назначаны Паморскім ваяводай. Б. Паморскі ваявода Ваховяк і Валынскі — Дэмбскі залічаны ў адстаўку.

— На Паўночным моры затануў польскі гандлёвы карабель „Wisła", вязучы груз коксу з Роттэрдаму да Даніі. Карабель папаў падчас буры на мель. 2 матросы патанулі.

— 11 кастрычніка варшаўскі акружны суд начаў разгляд справы 11 афіцэраў флёту, абвінавачаных у надужыцьцях пры дастаўках.

Галоўным абвінавачаным зьяўляецца камандор Барташэвіч.

— З прычыны інгрэсу Прымаса Польшчы кс. Глёнда, адбудзецца ў Гнезьне зьезд Польскага Епіскапату.

— Гэтымі днямі мае прыехаць да Варшавы ведамы індускі пісьменьнік Рабіндранат Тагор. У сучасны мамэнт ён знаходзіцца ў Празе.

— Прыбыў у Варшаву польскі пасол у Францыі Хлапоўскі, які быў прыняты міністрам замежных справаў Залескім.

— У канцы гэтага месяца ў Варшаве будзе адчынены памятнік польскаму кампазытару Шопэну.

— 17 і 18 кастрычніка распачынаецца ў Варшаве кангрэс Галоўнае Рады П. П. С. На парадку дзённым стаяць справы, як адносіны П. П. С. да ўраду, да дыктатуры, да роспуска сойму. Будзе таксама разьбірацца справа ўваходу Марачэўскага да сучаснага кабінэту.

— На варшаўскай біржы ўсьцяж заўважваецца направа, якую найлепш ілюструе курс доляра ў прыватных абаротах. За даляр плацяць 9,05 зл.

У Горадні распачаўся працэс Яна Біспінга, які абвінавачваецца ў забойстве 2 сялян і падпале вёскі ў Масалянскай валасьці ў 1919 годзе.

Да віны Біспінг ня прызнаўся.

Працэс пратрывае каля 3—4 дзён.

— У Варшаве забіты вядомы бандыт Зелінскі. За ўвесь час ён забіў і раніў 16 паліцыянтаў, ды ня мала і цывільных асобаў.

Паліцыя даведалася, што Зелінскі хаваўся ў сваіх сваякоў. Тады цэлы квартал быў акружаны паліцыяй, каб не даць магчымасьці ўцячы бандыту. Калі паліцыянты ўвайшлі да хаты, дзе знаходзіўся Зелінскі і загадалі падняць рукі ўгару, дык ён выцягнуў з кішані рэвольвэр і пачаў страляць ў паліцыю. Аднак паліцыянты, відаць спадзяваліся гэтага, бо былі гатовы да ўсяго і падстрэлілі яго.

## Заграніцай.

АМЭРЫКА. Найвялікшыя саюзы медзяной прамысловасьці Паўночнай і Паўдзённай Амэрыкі, Нямеччыны і Англіі стварылі сусьветны медзяны трэст. Трэст мае на мэце стабілізацыю цэн медзі і агранічэньне спэкуляцыі ёю.

КІТАЙ. Як паведамляюць з Шанхаю чырвоныя войскі занялі горад Ву-Чанг. Усе жыхары стараліся ўцячы з гораду. Шмат хто стараўся ратавацца на лодках, пры чым згінула каля 10,000 чалавек.

У апошнія часы ізноў пачалі перамагаць антыбальшавіцкія войскі.

ЛІТВА. Савецкія газэты апублікавалі, што 28 верасьня ў Маскве падпісаны паміж Літвой і С.С.Р.Р. гарантыйны дагавор. Дагавор складаецца з 7 артыкулаў. Гэты дагавор мае і іншыя пункты, у якіх гаворыцца аб ваенным саюзе між Літвой і ССРР.

Некаторыя літоўскія партыі рашуча пратэстуюць проці прыняцьця Соймам гэтага дагавору.

ШВЭЦЫЯ. З Стокгольма паведамляюць, што ў Швэцыі выкрыты вялікі загавар комуністаў. Комуністы хацелі падняць паўстаньне і захапіць уладу ў свае рукі.

ФРАНЦЫЯ. Арыштаваны нейкі гішпанец, які меўся забіць францускага прэм'ера—міністра Пуанкарэ.

Бюджэт Францыі на 1927 год дасягнуў 29 з паловай мільярдаў франкаў.

Прыбыў да Кіссінгену нямецкі пасол у Парыжы Геш. Ен маніцца прыняць удзел у конфэрэнцыі па пытаньню аб француска-нямецкай угодзе, каб па павароце ў Парыж паінфармаваць аб гэтым францускі ўрад.

*Турцыя* Тут мабілізавана 5 карпусоў. Мабілізаваны мужчыны, якія радзіліся ў 1903 і 1904 годзе.

*Мэксыка.* Прэзыдэнт запрапанаваў кангрэсу праэкт, які аграничывае колькасць каталіцкіх ксяндзоў і духоўных іншых вераваньняў.

Падчас дыскусіі ў палаце дэпутатаў дайшо да рэвальвэрнай стральбы, пры чым тры дэпутаты былі забіты.

ЧЭХАСЛАВАКІЯ. Сфармаваны новы чэскі кабінэт. Прэм'ерам зьяўляецца др. Свэла. Міністрам замежных справаў застаецца Бэнэш.

НЯМЕЧЧЫНА. Вельмі шмат шуму робіць замер б. кайзэра Вільгэльма вярнуцца да Нямеччыны. Як ведама да гэтага часу ён знаходзіўся ў выгнаньні ў Галяндыі.

АНГЛІЯ. Прадбачыцца скоры канец забастоўкі вуглякопаў. Работнікі стыхійна пачынаюць вяртацца да работы.

## Палітычная віртуознасьць Мамонькі.

Нядаўна беларускія і польскія газэты падалі вестку аб канфэрэнцыі эсэра Мамонькі з нейкімі асобамі. Частка з іх, як п. Маразэвіч і Дварчанін катэгарычна запярэчылі свой кантакт з Мамонькай. Не запярэчыў толькі сам Мамонька, што ён канфэраваў з вядомым Е. Міткевічам—агэнтам дэфэнзывы ў адстаўцы, слаўным супрацоўнікам гэткага-ж агэнта дэфэнзывы службы чыннай Баранавіцкага староства—Цяўлоўскага. Відаць беларускаму эсэру Мамоньцы не вядома, што Міткевіч і Цяўлоўскі як платныя агэнты (не сябры партыі, а найміты агэнты) Пяста, вялі працу скіраваную, паводле, як вядома праграмы гэтай партыі, да палёнізацыі крэсаў і насаджэньня асадніцтва. Відаць беларускаму эсэру Мамоньцы гэта не вядома, як і тое, што гэты ж Міткевіч быў правай рукою расейскага манархіста гэнэрала Новікава, група якога раптам кімсь была справакавана і да аднаго чалавека выслана пад канвоем у Гданск, апрача аднаго... Міткевіча, адразу пайшоўшага ад тэй пары ў гару. Такая „драбязга",

# Уладзімір Жылка як мастак слова.

„Душа мая тужлівая
Лілея між балот..."

(НАРЫС).

Беларуская, адраджоная літэратура мае надта-ж невялічкую жменю паэтаў—індывідуалістаў, мастакоў слова, песьняроў чыстае красы, пераважна-ж гэта—вясковыя самародкі з выдатна — сялянскай псыхікай: прымітыўнай і вузкай як жыцьцё вёскі, і з гэткім-ж творамі. (Маем тут на думцы выключна пэрыад зусім сьвядомага беларускага адраджэньня, пачынаючыся з 1905—6 гадоў).

Сярод першарадных беларускіх песьняроў характэрным прадстаўніком гэткай сялянскай псыхікі зьяўляецца Якуб Колас: круг ягоных тэмаў вузка — вясковы; места здаецца яму чымсь незразумелым і чужым; толькі пасьля доўгае працы робіцца ён здольным да перажываньня больш тонкіх настрояў і выражэньня іх у больш вышуканых і арыгінальных літэратурных формах.

Другарадныя-ж і дробныя беларускія пісьменьнікі амаль што ня ўсі належаць да гэтае „вясковае" катэгорыі.

Цікаўным прадстаўніком пераходнага — ад вясковага да местовага—тыпу зьяўляецца выдатны песьняр наш Янка Купала.

З аднаго боку бачым ў яго творах сялянскі прымітывізм, з другога-ж—вельмі дэлікатныя настроі, глыбокую думку, даволі шырокі кругазор і багацтва тэмаў і форм.

Дзеля таго што звароты: „вясковы", ужытыя для азначэньня ўмысловых тыпаў, зьяўляюцца ня зусім сьціслымі і яснымі, можам замест іх ужыць гэткія яшчэ тэрміны: „псыхіка прымітыўная" і „псыхіка інтэлігэнтная", тыя-ж 2 першыя тэрміны мы ўжылі праз тое, што ў Беларусаў, дзякуючы ўтраце здэнацыяналізаванае, радавае інтэлігэнцыі — шляхоцтва, паняцьце „інтэлігэнта" лучыцца з паняцьцем „места", таго ўмысловага асяродка, у якім выхавалася новая беларуская інтэлігэнцыя, вышаўшая — праўда — з вёскі, але—за выняткам некалькіх груп (сельскае настаўніцтва і г.п.)—асеўшая ў месьце.

Бяручы справу ў сусьветным, агульна-людзкім масштабе, найбольшую вартасьць для Беларусаў, як доказ іхняе духовае культуры, маюць творы г. з. песьняроў Чыстае Красы, прамаўляючыя да кожнае чалавецкае душы, незалежнае ад нацыі і веравызнаньня адзінкі.

Вось-жа найвыдатнейшым прадстаўніком гэтага кірунку і яго духоўным правадыром, зьяўляецца ўмершы некалькі гадоў таму назад Максім Багдановіч, аўтар „*Вянка*", інтэлігэнт і Эўрапэец ў поўным значэньні гэнага слова, вялікі мастак і глыбокі думаньнік—інтэлектуаліст.

Праз некалькі год, асірацеўшы пасьля сьмерці *maestro*, пасад ягоны заняў годны наступнік — *Уладзімір Жылка*, малады беларускі песьняр, пражываючы цяпер у Празе Чэскай.

Найбольш характэрнымі рысамі ягонае творчасьці ёсьць з аднаго боку нахіл да вышуканых імпрэсыяў, з другога-ж — пранікаючы яе моцны, нацыянальны элемэнт.

Калі ў першым сваім зборніку п.н. „*Уяўленьне*", ён яшчэ хістаецца і шукае пуцявіну, дык за тое ў другім „*на ростані*" духовае аблічча Жылкі ўжо скрысталізавана бадай што аканчальна: ён цьвёрда ступае па сьлядох М. Багдановіча, не губляе пры гэтым свае індывідуальнасьці і самастойнасьці.

Крытыка беларуская спаткала маладога песьняра надта-ж прыхільна і толькі нейкісь „*Букіністы*" ў нябошчыку „*Грамадзкім Голасе*", не ўстрымаўся і па сваіму звычаю *лягнуў* маладога паэта ў недарэчнай стацейцы, падыходзячы да надытхнёных і арыгінальных паэзіяў песьняра з крамным аршынчыкам сухіх правапісаў і мёртвых граматычных правіл!

Зборнічак „*На ростані*" — невялічкі, ў ім толькі 46 старонак фармату шаснасцаткі, але затое ў ім бадай што зусім няма кепскіх вершаў!

Зьявішча гэнае заслугоўвае на спэцыяльную ўвагу, як надта рэдкае ў беларускай літэратуры дзе „старая гвардыя" нашаніўцаў ад часу да часу прыгаломшывае чытача вялізарнымі, па колькісот старонак, зборнікамі вершаў, ў якіх добрае пераблутана з нічога ня вартым і дзе драбнейшыя песьняры—праўда—друкуюць малыя, але-ж і—пераважна — мала вартыя зборнічкі вершаў, ці паэмкі.

Па за гэнымі зборнічкамі Жылкі мы можам вылічыць толькі некалькі зборнічкаў сапраўды цэнных; ўсе яны належаць да інтэлігэнцкае жменькі „песьняроў чыстае красы", беларускіх модэрністаў імпрэсыяністаў, якая складаецца — з большага—з гэткіх асоб: 1) М. Багдановіч, 2) Констанцыя Буйло, 3) Наталья Арсеньнева, 4) У. Жылка, а з песьняроў Радавай Беларусі: У. Дубоўка і А. Дудар.

Але вернемся да зборніку „*На ростані*".

Зборнік гэны падзяляецца на 4 аддзелы: І-шы —патрыятычны, п.н. „*Бацькаўшчына*": ІІ-гі — прырода-апісальны п.н. „*З палеткаў і лясоў*"; ІІІ-ці—любоўны п.н. „*Спатканьне з Эросам*" і ІV-ты — імпрэсыянальны п.н. „*Думы і настроі*".

Прыглядзімся-ж бліжэй да гэных вершаў.

Бяручы агулам, прадусім зварочвае ў іх увагу чытача *інтэлігэнтнасьць іхняга зьместу*; якая выяўляецца і ў багацьці паэтыцкіх формаў, йдучых шырокай гамай ад суровай зважнасьці кляссыцызму да „вольнасьцяў" сучаснага модэрнізму, і ў рожнароднасьці закранутых тэмаў, і ў глыбіні думак, і ў тонкасьці імпрэсіяў...

Кожны верш ягонага зборніку калі ня ёсьць шэдэўрам, дык у кожным выпадку заслугоўвае на назоў „добрага" і ёсьць старанна і арыгінальна апрацаваны, што—на жаль!—не належыць да паспалітых зьявішчаў сярод беларускіх песьняроў.

як тое, што Міткевіч знаходзіўся пад судом за растрату грошы горадзенскага прытулку фактычна магло быць ня ведамым эсэру Мамоньцы. Аднакжа калі ўсё гэтае эсэру Мамоньцы не вядома, дык чаму ён сам, як антыпаляк (глядзі яго Бюлетэні!) лазіць сыстэматычна і ўпарта па польскіх ужэндах і аддзелах безпечэнства, складаючы мэморыялы і прапануючы свае ўслугі?

## Белруская Сьмярдзякоўшчына.

Вядомы культурны бяларускіе дзеяч Вацлаў Ластоўскі, б. старшыня Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі ў сваім месячніку „Крывіч“ (№ 1-11) дае вельмі трафнае акрэсьленьне таму агіднаму зьявішчу, якое атручвае беларускае адраджэньне ад самых першых яго мамэнтаў і да сёняшняга дня. Гэтае зьявішча акрэсьляна як сьмярдзякоўшчына і ў гэтым артыкуле „Крывіча“, як жывы выступае сам „тварэц“ нашай сьмярдзякоўшчыны — беларускі Сьмярдзякоў,

Ластоўскі наўмысьля не падае прозьвішча гэтага беларускага Сьмярдзякова, але ці-ж можа быць сумліў у тым, чый партрэт ён даў.

Вось што піша „Крывіч“:

„Індыйская мітолёгія мае два першапачаткі — будуючы і руйнуючы — якія ўасобіла ў постаці Брамы і Шывы.

Чалавек, як часьць прыроды, носіць у сабе зародкі той і другой сілы: перавага аднэй або другой сілы ў характары чалавека, праяўляецца ў яго чыннасьці. Праца адных дае будуючыя вынікі, яна плодная і праца другіх зьяўляецца пракляцьцем для тэй справы, для якое яны працуюць, бо акром зьнішчэньня яна нічога даць ня можа: „па пладах іх, пазнаеце іх.“

Вялікі знавец людзкой душы, наш пабратым Дастаеўскі, у повесьці „Братья Карамазовы“ паказаў цэлую сямью такіх людзей. Уся сямья Карамазавых — людзі бяз веры і любові, але найбольш агідны з іх Сьмярдзякоў, гэты прадукт *маральных падонкаў чалавецтва* і іх жывы прадстаўнік у грамадзянстве.

У Сьмярдзякова няма ў жыцьці *ідэалу*, гэта знача—чыстай, самапасьвятнай любові і вынікаючай з яе веры ў ідэал, *няма* ў душы пачуцьця *этыкі*, неразлучнай з паняцьцем і пачуцьцём *чэсці* Гэта тып трутнага ўнутранага—псыхолёгічнага разлажэньня — апошні крэс маральнага ўпадку, цынічная ўбогасьць і нагасьць духовая.

— „*Я ёсьць заразны чалавек... Нешчасьлівы гэтакі, ядавіты дух... Тлеючы я чалавек*“... Верпа характэрызуе сваей адмены Сьмярдзякоў, выведзены ў басяках Горкага.

Гэты людзі, якія тлеючы і разкладаючыя, людзі з „ядавітага духа“, пачалі расьці і множыцца ад нейкага часу на нашым грамадзкім грунце.

І трэба прызнаць, што, дзякуючы ненармальнасьці варункаў у якіх знаходзіцца цяпер нашае адраджэньне грунт тут для іх падатны. Тут маецца —першы і найважнейшы для „тлеючага духа“ варунак — *безкарнасьць*. Мы недзяржаўны народ, а знача каб бараніцца ад іх ядавітасьці ў нас няма *адзіна перакануючага для іх прымусу*: рух малады і не скрысталізаваны яшчэ а знача няма такжа сільнай грамадзянскай апініі, якая магла бы пагамаваць іх моральна. Урэшце нашае грамадзянства знаходзіцца пад чужымі окупацыямі, разьдзеленае кардонамі, што спрыяе разросту гэтых рыцараў ордэну разлажэньня , якія могуць бязкарна а нават, маючы падтрыманьне з боку нашых гнабіцеляў; праяўляць свой „ядавіты дух“,—муцячы грамадзкую апінію і абкідаючы брудамі сваіх чэлавеканенавісьніцкіх, тлеючых душ, усё што ёсьць высокага, чыстага і сьвятога, ў нашым адраджэньні, галоўным жа чынам запраўды глыбока ідэйныя кірункі нашай грамадзкай мысьлі.

Пры гэтым *у Сьмярдзяковых свая тактыка.* Яны змагаюцца не адкрыта і чэсна, на гэта ў іх не хапае грамадзкай адвагі. Разяць яны пераважна сваіх антыподаў пацёмку, *з-за вугла* пад маскай (па—за плечыма сваіх зіц-рэдактараў. Рэд Б.С.) або аддзяліўшыся кардонамі, забасьпечаючы сэбе максімум безкарнасьці, пры гэтым выступаюць зазвычай не процістаўляючы прынцып супраць прынцыпу, аргумант супраць аргуманту, а кідаючы адно гразёй і брудам, гадзячы і гразьнячы ўсё што ня з імі, што не падобна да іх. Тактыка нізкая, нікчэмная, больш таго —агідная, але верная псыхіцы Сьмярдзяковых, у якіх няма месца нават элемэнтарнай этыцы, няма ідэйнасьці і до нікога і да нічога любові.

Людзі тлеючага, ядавітага духа ў грамадзкай рабоце, гэта Дастаеўскага Сьмярдзякоў за гітарай, які іграе ролю закаханага ў ідэале і на довад чаго расьпявае сваей Машэньцы скабрэзныя куплеты, каторыя заканчае меней болей такім маналёгам (з басяцкіх тыпаў Горкага):

„Бруха у чалавека—галоўная справа. А як бруха спакойна, знача і душа жыва,—усякая чыннасьць чалавечая ад бруха паходзіць“...

Нашы Сьмярдзяковы маюць у нас ужо сваю генэалёгію і гісторыю.

Перад 1905 годам пачаў на сацыялістычным падложы будавацца адраджэнчы рух. Імкнулася да яго галоўным чынам моладзь, а ў ліку гэтай моладзі былі і пранырлівыя Сьмярдзяковы. Яны з аднэй стараны паслугавалі памешчыцкім сынкам, страляючы ў іх трохрублёўкі і адначасна, „прыймалі ўдзел“ у сацыялістычным руху „хаваючыся ад прасьледаваньня паліцыі“ з сталовага пакою ў спальню і са спальні ў сталовы пакой. Увесь „ соцыялізм“ іх палягаў на хаваньні сваей асобы ў той час, калі кругом іх „праваліваліся“ менш асьцярожныя іх аднапартыйцы.

У 1907—1911 годзе Сьмярдзяковы сядзелі ўжо за „гітарай“, і, дбалыя аб спакой свайго бруха, даволі вычварнага ўжо, прадавалі беларускі народ у уніяцтва. (Як цяпер прадаюць у мэтадызм Рэд. Б. С.) І высмактаўшы ад зацікаўленых асоб соткі тысяч рублёў грошы, правалівалі праз падстаўных асоб запачаткованую кампанію.

У 1912 годзе Сьмярдзяковы езьдзяць на паклон таварыству ЛКТ ў Катавіц. Пазьней, калі гэта раскрываецца, крычаць аб прасьледаваньні іх „нявінных“, аб сваім „мучаніцтве“ за справу.

У часе нямецкай акупацыі Сьмярдзяковы ўслугоўваюць немцам. (Выдаюць нямецкую окупацыйную газэту ў беларускай мове „Гоман“. Рэд. Б.С.)

Ды так шчыра, што саўсім выручаюць окупанцкіх палітычных агэнтаў, пабіраючы за гэта нікчэмную плату гатоўкай (75 марак. Рэд. Б. С.) і права доступу ў перад пакоі окупанцкіх урадоўцаў. Іх подпісы аздабляе цяпер прыдомак „von“; яны, бач, патомныя арыстакраты!

Канчаецца вайна, рэвалюцыя, замяшаньне... І Сьмярдзяковы, з іншымі падонкамі, усплываюць на верх грамадзкага жыцьця. Яны ў Францыі свае людзі ў францускай разьведцы. (Разам з графіняй (?) фон Лівэн. Рэд. Б. С.)

Яны ў Варшаве вядуць „высокую“ палітыку. Яны ў Менску пьянствуюць з дэфэнзывай. Яны ў Бэрліне за пан брат з нямецкімі манархістамі падгатаўляюць друкаваньне фальшывых керанак. Яны перарабляюць цукер у монпансье, разьбіваюцца на камусьці прапаўшых аўто.. Яны вітаюць тэлеграмамі Врангеля і зносяцца з Комінтэрнам. Усюды вядуць „рэальную“ палітыку, запушчаючы жорава ў „прыяцельскія“ кішані.

Кішанковыя справы, пры ачышчаньніся пасьля-ваеннай атмасфэры, скіровуюць Сьмярдзяковых да комінтэрнаўскай шкатулы. Яны наігрываюць на сваіх гітарках цяпер інтэрнацыянал і ор‘ентуюцца на Менск.

Лжэй і брудам яны смуродзяць тую справу, да якой прыкараскаліся, разьядаюць яе сваім нігілізмам, як іржа зялеза і агідзяць у вачах добрых людзей, адганяючы сваей паражаючай смуроднасьцю каждага, хто ня звыкся са смуродам. Гэта сыстэма называецца у іх: рабіць сабе *манапольна* справу.

Сьмярдзяковы, ня гледзячы на іх дэмократычную зьнешнасьць, унутранна „арыстакраты“. Просты народ для іх чэрнь. „Мужыка“ яны ненавідзяць і пагарджаюць яго, для іх ён больш ненавісны чым пан з паноў.

„Мужык“, селянін, мае імкненьне з загнанай і абяздоленай сялянскай клясы стацца народам, нацыяй. Вось гэта найбольш і непадабаецца ядавітаму, тлеючаму духу Сьмярдзяковых.

Прамаўчываць далей работу Сьмярдзяковых, гэта грамадзкае праступленьне! Трэба ачышчаць атмасфэру! Аргуманты некаторых дзеячоў, што Сьмярдзяковы прыссаліся ужо да справы, і раскрываючы іх бруды, трэба будзе выварачываць на вуліцу многа гною, не вытрымліваюць крытыкі. Трэба выкідаць бруд, хоць-бы і на вуліцу і ачышчаць справу.

Работа Сьмярдзяковых стала што раз глыбей смуродзіць справу, а асэнізацыя будзе мець месца толькі нейкі пэрыод. Работа Сьмярдзяковых адганяе людзей, забруджае душы моладзі аплёвываньнем усяго чыстага; дыскрэдытуе нашае адраджэньне ў краю і заграніцай перад чужынцамі. Трэба кончыць прамаўчываць Сьмярдзякоўшчыну. Гэта ня можа датычыць ніякага запраўды ідэйнага кірунку, каторы можа быць адказны толькі пастолькі, пасколькі не перабірае ў наймітах.

Яны цяпер пяюць інтэрнацыянал, прапаведаюць ор‘ентацыю на Менск, лаюць незалежнікаў, чцяць Леніна, знаюць сымболь марксісткай вер

---

Ў авангардзе сучасных беларускіх мадэрністаў (ня лічучы—канешна—памёршага М. Багдановіча) У. Жылка займае бязспрэчна першае мейсца!

Бо толькі вазьмеце першы-лепшы ягоны верш! ўчытайцесь! пастарайцеся яго належна адчуць, як ўраз-жа і вас захопіць салодкі энтузыязм маладога песьняра і вы—самахоць, — на‘т не прыкмечаючы таго, акунецеся з галавой у блакітную краіну фантазіі і скупаеце і адсьвежыце Душу сваю у крыніцы Вечнага Хараства...

Вось напрыклад пачатак вершу „*Беларусь*“ (ст. 7):

„Беларусь, Беларусь—гэты зык
„Паліць душу маю, як вагнём,
„Я ня ведаю, чым ён вялік,
„Але думак ня змог я аб ём.

„Як пачую яго, задрыжыць
„Мае сэрца, заные ў грудзёх,
„І балюча так робіцца жыць,
„І шукаеш чагосьці ў людзёх...“

Ці-ж чытаючы гэны верш не бачым мы, як сэрца паэты прост такі гарыць каханьнем да Бацькаўшчыны?!

Ці ж ня чуем мы, што ён сапраўды ёсьць „грамнічнай сьвечкай прад Богам“, якая „ціхай згарае малітвай“ за родны свой Край?!

А як выглядае беларуская прырода у творах песьняра?—Безпадобна!

Сапраўды ў артызме малюнкаў натуры німа яму роўных у беларускай паэзыі!

Вось напрыклад некалькі адрыўкаў:

„Я люблю густыя шумы,
„Перагуд высокіх хвой.
Ў цень і ціш лясной задумы
„Я люблю прыйсьці вясной...

„І спусьціўшыся лагчынай
„У заросшы дол сыры,
„Між бяроз, густой ляшчынай
„Заблудзіўшы, ў гушчары.

„Дзе таёмна сьціпша, змрочна,
„Дзе вільготны, мягкі мох,
„Дзе ўзіраецца ставочна
Збуджаны перапалох.“

Тутака адзначым мімаходам, што дасканальны верш п. н. „*Вецер*“ (стр. 19) памылкова зьмешчаны ў аддзеле II-гім прыродаапісальным; ягонае мейсца сярод імпрэсыяў ў аддзеле IV-ым.

А вось і краіна каханьня!

Вось напрыклад успамін нейкагась даўнейшага, мо‘ першага, каханьня:

„Твае блакітнасьці нязьменны,
„Нязьменна хараство твае“.

Кажа паэт і каючысь прызнаецца:

„А я атруты келіх пенны
„Разьліў якраз ў жыцьцё маё“.

А крыху далей:

„...І нецьвярозы і распусны
„Забыўся я тваё імя
„І не адны галубіў вусны,
„І не з аднэй схадзіўся я“.

Але салодкая, сьветлая мінуўшчына кліча і;

„Хоць праўда (можа й прыпадкова)
„Ўстаюць няясна інады,
„Як скарбы патаёмных сховаў,
„Даўно забытыя гады.

„Мільгне праз хмельныя туманы
„Жыцьця разбаенага сказ,—
„І моладасьць, і сны і раны,
„І любы, любы твой абраз“.

У апошнім аддзеле імпрэсыяў знаходзім тры сапраўдныя пэрліны беларускай паэзіі; першы з іх будзе безнадзейны вершы (стр. 36), начынаючыся гэтак:

„Душа мая тужлівая
„Лілея між балот.
„Ўзрасла яна, маўклівая,
„У багні сонных вод:

„Ей сьніцца неба іннае,
„Дзе сонечна вясна,
„І песьняй салаўлінаю
„Атручана яна...“ і г. д.

Другой зьяўляецца поўны сыновае любові II-гі верш „*Да мае матулі*“ (ст. 39):

„Ты чакаеш сына, ведаю.
„З сьлёзаў ведаю, з тугі
Ўпалі вочы, губы бледыя,
„Старыць, сівіць лёс благі“.

І ведае паэт што:

„Калі лучыць нягодная
„Доля згінуць ў чужыне,
„Ня ўздыхне душа ніводная,
„Не ўспамяне пра мяне.

„Толькі ты згаворыш пацеры
„Над нядоляю маёй,
„Толькі вочы мае мацеры
„Затуманяцца сьлязой“.

Трэцяя—ўрэшце—пэрлінай паэзіі зьяўляецца ізноў-жа безназоўны верш (стр. 43), пачынаючыся словамі: „*Прытулі сястра слабога*“, поўны ціхае мэланхоліі і лагоднае рэзыгнацыі:

„Прытулі, сястра, слабога,
„Прыгалуб каханка сьмерць.
„З гэткай шчырасьцю нікога
„Не прасіці мне, ня сьмець:—
„Прытулі мяне слабога“... і г.д.

Але гэта толькі хвілёвы настрой і, карыстаючысь славамі Ібсэна, паэт наш сьмела можа сказаць аб сабе:

„Я ветразь свой у сьвет вялікі
„Пакіраваў і, як арол,
„Ляту, і мора б‘е наўкол,
„І чаек ўсьлед чуцён крык дзікі“...

Дык ляці-ж, ляці наш саколе, ляці што раз вышэй!..

*Язэп Сьветазар.*

# Адозва Беларускай Нацыянальнай Рады.

З прычынаў распаўсюджаньня праз органы „Грамады“ фальшывых вестак аб нібыта распадзе Беларускай Нацыянальнай Рады, гэтым даводзім да ведама вучасьнікаў зьезду, Раду выбраўшага, сымпатыкаў і прыхільнікаў і ўсяго Беларускага Грамадзянства, што гэта ёсьць звычайная ілжа „грамадаўскіх“ пісакаў. На мейсца выбыўшага з Рады п. Аляхновіча, уступіў новы сябра — першы кандыдат зьезду п. Кернажыцкі Нікадым, вядомы вучасьнік беларускага Слуцкага паўстаньня. Гэткім чынам Рада зноў ў камплекце сваіх 7 сяброў. Аднак жа Беларуская Нацыянальная Рада знаходзіцца ў цяжкіх матэр‘яльных варунках, якія не даюць ей магчымасьці адпаведна вясьці як сваю культурную працу, так і з патрэбнай энэргіяй змагацца з моральным разлажэньнем нашага сялянства, якое сыстэматычна і плянова вядзе „Грамада“ пры аграмадных сродках, якія кідаюцца на гэтае разлажэньне і рэвалюцыянізаваньне сялянства закардоннымі комуністамі.

Гэтае цяжкае матэр‘яльнае становішча зразумела для ідэйнай нацыянальнай арганізацыі, якая не мае сваіх уласных сродкаў. Праўда мы беларусы плацім падаткі ў агульна дзяржаўную казну і маем поўнае права скарыстаць хаця-бы з часткі гэтых грошаў на свае культурна-прасьветныя патрэбы, аднак мы павінны прызнаць, што зразуменьня гэтага абавязку польскага грамадзянства дзеліцца з беларусамі агульнымі сродкамі на беларускія патрэбы да гэтага часу няма. І карыстацца сродкамі замежнымі, а тым болей комуністычнымі, як гэта робіць Грамада, мы ня можам, бо гэтага нам не дазваляе нашае сумленьне і пракананьне. Гэтыя несправядлівыя і незразумелыя адносіны да лёяльнай часткі беларускага народу, які хоча мірна і ў добрых адносінах жыць з польскім народам, ёсьць аднэй з галоўных прычынаў росту варожых Польшчы сілаў, як Грамада.

Аднак жа Бел. Нац. Рада, у пачуцьцю свайго абавязку перад сваім народам і перад зьездам, свайго штандару, на якім перадусім красуюцца словы: нацыянальнае адраджэньне і барацьба з комунізмам — ніколі ня спусьціць, ня гледзючы на цяжкія пераходныя часовыя моманты. Белар. Нац. Рада, як арганізацыя, якая першая выступіла на безумоўную актыўную барацьбу з комунізмам і перад усім з комунізмам сваім—беларускім і на гэтым сваім шляху мае пекную мінуўшчыну ў слаўным слуцкім паўстаньні і будзе мець рэальную будучыну, калі прыдзе момант апошняга змаганьня з комуністамі за вызваленьне усходняй Беларусі. Дзеля гэтага ў сёньняшні часовы цяжкі момант, ў якім знаходзіцца ня толькі Рада, але і іншыя беларускія групы, якія не прадаюцца за грошы комуністычнаму інтэрнацыяналу, як гэта робіць „Грамада“ — усе праўдзіва ідэйныя беларусы павінны згуртавацца каля сваіх беларускіх народна-дэмакратычных групаў, залежна ад сваіх соцыяльных і іншых імкненьняў. і пракананьняў. Бо праўдзівая ідэйнасьць пазнаецца толькі ў цяжкія мамэнты, а не тагды, калі сыплюцца сінекуры і дабрадзействы.

Дык яшчэ раз клічам усіх нашых сяброў і сымпатыкаў разкіданных па далёкіх кутках нашых беларускіх зямель, згрудзіцца каля нашага штандару, які паднялі мы яшчэ ў 1919 годзе падчас слаўнага Слуцкага паўстаньня за шчасьце нашага пароду, за лепшую будучыну наймілейшай нашай Маці —Беларусі.

БЕЛАРУСКАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ РАДА.

Вільня 16 кастрычніка 1926 году.

---

думаюць і пішуць як загадае начальства, лічаць праўдай, што прапісана Г. П. У., лічаць прыгожым, што прыгожа па Луначарскаму, і, урэшце, гатовы палажыць жываты свае за палітбюро.

Але няхай затрасецца памост на савецкім караблі, ці зачыніцца савецкая шкатула і першыя яны кінуцца на ўцёкі з яго...

Трэба жоўтадзюбы вывадак сьмярдзякоўскіх кікімор, якія засмуродзілі паветра на эміграцыі, (якія ў сваім часе зрабілі свой галосны комуністычны пратэст проціў старшыні Беларускае Нацыянальнае Рады А. Паўлюкевіча. Рэд. Б. С.) ў Празе, выданьнем глупа-подленькага сьвістка, агалоўленага шумна „Прамень“, назваць па імю, якое ім належыцца.

Словам трэба чыстае адасабляць ад прадажнага, бо будуе толькі самапасьвятная любоў і запраўды ідэйная праца, а не спэкуляцыя нашымі сьвятынямі.

Ня бруха, а дух павінен быць нашым ідэалам.

Пара ачышчаць атмасфэру!“

Што пара ачысьціць атмасфэру і даўно ўжо пара — гэта ёсьць сьвятая ісьціна, але трэба выявіць пэўную актыўнасьць і адвагу, каб былі рэальныя рэзультаты. Думаем, што з гэтага боку мы свой абавязак сумення выканалі. А ў сёньняшнім нумары мы падаем жэст грамадзянскай адвагі з боку „Крыніцы?, запятнаўшай беларускага Сьмярдзякова тытулам „бацькі газэтнага бандытызму“, з прызывам „змагацца з падобным моральным выраджэньнем“. Так, змагацца і змагацца гэткімі сродкамі, якія змогуць праканаць нават тоўстаскурага Сьмярдзякова.

## У ССРР.

### Крыленка і апазыцыя.

Па прыватным чуткам, якія ўпарта перадаюцца ў Саўдэпіі, асабісты прыяцель Троцкага Крыленка перайшоў да апазыцыі. Гэты пераход гэнэральнага пракурора страшэнна ўзмацняе аўтарытэт апазыцыі і вызывае асобую трывогу сярод комуністаў. Бо ў выніку гэтых чутак да апазыцыі пачынаюць пераходзіць усё новыя групы партыйцаў. Перадаюць, што ў адным Пецярбурзе ў зьвязку з пераходам Крыленкі — перайшло да апазыцыі 800 комуністаў.

Пахне „смажаным“. Пакуль толькі „пераходзяць“ ды спрачаюцца. Хутка і за чубы возьмуцца... А там.. Скончыцца і грызьня і падзелы, бо прыдзецца думаць аб захаваньні скуры,

### Уцякаюць.

І ўжо „цяга“ з „раю“ аб‘яўляецца ў вельмі значных разьмерах. Шмат вышэйшых „чыноў“ комуны з фальшывымі пашпартамі ужо ўцяклі заграніцу.

„Скора зіма будзе“! як дасьціпна па гэтаму поваду піша Украінскі „Дзьвін“, бо бальшавіцкія птушкі разьлятаюцца ў цёплыя краі...

### Троцкі і К° пад Судом.

Па апошнім весткам з Масквы, якія друкуець польскае Віленскае „Слова“ „апазыцыя“ на чале з Троцкім заявіла, што падпарадкоўваецца загадам і кантролю Цэнтральнага Камітэту Ком. Партыі.

Гэтую задачу ставяць у сувязі з напружаннасьцяй адносінаў ўва ўсім СССР., якія пагражалі ўзрывам, а што за гэтым ідзе — магчымасьцяй гібелі ўсяго савецкага строю.

І гэта зусім можа быць: Бо пэўне-ж: лепей адмовіцца ад „ідэі“ і „заветаў Ільіча“, за што быццам так крэпка змагалася апазыцыя, чым страціць кавалак хлеба „пралетарскага“ камісара, дый яшчэ папасьць у Сыбір! Але думаем, што гэты „тактычны ход“ апазыцыі не збавіць компартыі ад гібелі, а ў лепшым выпадку—толькі дасьць партыі „перадышку“.

### Сытуацыя завастраецца.

З Масквы перадаюць, што паміма забароны прадстаўнікі апазыцыі надалей выступаюць публічна на работніцкіх і партыйных сабраньнях з востраю крытыкай пануючай большасьці партыі. Па гэтаму поваду Маскоўскі Цэнтральны Камітэт пастанавіў аддаць Троцкага, Зіноўева і Пятакова пад партыйны Суд. Па гэтым жа чуткам ЦК ужо дапрасіў памянёных правадыроў апазыцыі і сьведкаў і матар‘ялы дасьледу перадае на Зьезд партыі, які вынясе аканчальны прыгавор. Сталінцы дамагаюцца высылкі „бунтаўшчыкоў“ аж у... Сыбір...

Тымчасам барацьба завастраецца па ўсей лініі. Па газэтным весткам у Івана-Возьнесенску і Варонежы на работніцкіх сабраньнях дайшло да крывавых боек, а ў Кранштаце расфармававалі аж 2 палкі матросаў, якія выступілі проці вызначанага Сталіным камандзіра Балтыцкага флёту.

Ад шчырага сэрца кажам: памагай Божа! дзярыцеся, абы крапчэй

Прападзеце тым хутчэй!

---

## Юбілей Чэслава Янкоўскага.

2-га г. м. ў Вільні адбылося сьвяткаваньне 50 гадоў літэрацкай і публіцыстычнай працы п. Чэслава Янкоўскага. У чэсьць юбіляра усё грамадзянства Вільні арганізавала банкет і раўт. На банкеце прамовы гаварылі ваявода Рачкевіч і біскуп Міхалькевіч, і цэлы рад прадстаўнікоў грамадзкіх і літэрацкіх арганізацыяў і групаў. Ад імя беларусаў сказаў прамову старшыня Б. Н. Р. А Паўлюкевіч, вітаўшы юбіляра як шчырага прыяцеля беларусаў і ідэйнага крёўца. Юбіляр атрымаў некалькі соткаў дэпэшаў з усіх канцоў Польшчы.

# Тутэйшая хроніка.

**Ізноў ахвяра Сьмердзякова-Луцкевіча.** Віленскі Акружны Суд пры зачыненых дзьвярох разглядзеў справу рэдактара газэты „Беларуская Справа“ Александра Вільчыцкага. Вільчыцкі засуджаны на 6 месяцаў вастрогу.

Як ведама фактычным рэдактарам розных „Справаў“ зьяўляецца ўсім ведамы Антон Луцкевіч. За апошнія 2—3 гады сядзіць у вастрозе, або мусіла ўцякаць да Бальшэвіі па віне Луцкевіча каля 20 „рэдактароў“.

**Новая паштовая агэнцыя.** 7 кастрычніка адчынена паштовая агэнцыя ў м. Канвалішкі, Ашмянскага павету.

**Юбілей „Biełaruskaj Krynicy“.** 8. X. 1926 г. спаўняецца 10 гадоў са дня выхаду № 1 „Krynicy“. Беларускае грамадзянства маніцца ўрачыста адсьвяткаваць гэты юбілей

**Нездаволены.** Частка N.P.Ch. вельмі нездаволена з умовы, якая зроблена паміж N.P.Ch. і „Белар. Сялянска-Работніцкай Грамадой і жадае рэвізіі гэтае ўмовы.

Напэўна змусяць Тарашкевіча і інш. зрабіць яшчэ нейкія ўступкі. Загадаюць Тарашкевічу гаварыць на мітынгах па польску ня толькі ў Вільні, але і на вёсцы.

„Dziennik Wileński“ прадбачыць, што будзе паміж гэтымі партыямі раскол. А мы скажам, што ніколі гэтага ня будзе, бо як адны так і другія слухаюць і маюць аднаго пана—III інтэрнацыянал.

**Чарговая ілжа.** У рэптыліі пралетарскай Грамады „Народная Справа“ № 24 зьмешчана аб сьмерці „Беларускага Слова“. Выпуск чарговага нумару нашай газэты ёсьць найлепшым доказам ілжы і спробы ашуканства беларускага грамадзянства праз распаўсюджаньне Грамадою фальшывых вестак.

Старыя бальшавіцкія спосабы!

**Бел. Сялянска-Работніцкая Грамада распачала сваю дзейнасьць.** „Słowo“ піша: Дня 16 кастрычніка ўвечары старшыня „Гуртка“ Белар. Сялянска-Работніцкай Грамады ў вёсцы Сьценькі, Тумілавіцкай воласьці, Дзісьненскага павету, Андрэй Юдзёнак заманіў да памешканьня гуртка вывядоўцу палітычнай паліцыі Нікодыма Івашкевіча, гдзе на яго напалі некалькі сяброў гуртка. Вывядоўцу зьвязалі вяроўкамі і адабралі аружжа, пасьля чаго ў нелюдзкі спосаб білі, а калі той самлеў, старшыня гуртка Андрэй Юдзёнак нажом перарэзаў яму горла. Пасьля забойства Івашкевіча, праступнік зараз-жа зьбег, як кажуцьда Саветаў.

А „Народная Справа“ орган Грамады яшчэ сьмела баламуціць беларускіх сялян, што праца Грамады легальная, і такім чынам шмат каго справакавала.

Праўду пісала „Сялянская Ніва“ кажучы, што сяляне ідуць ў Грамаду на ўласнае гора. Бо пэўне-ж пасля таго, як Грамада распачала сваю дзейнасьць, нацерпяць ня толькі вінаватыя, але і ўсе тыя легкаверныя, якія думалі, што Грамада вядзе іх да дабра.



Адказны Рэд. Т. Вернікоўскі. Druk. NOWOCZESNA w Wilnie, Biskupia 12. Выдав. Бел. Нацыянальная рада.